www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 80 (4229)**

10 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЭГІЁН



## У Віцебску пройдуць юрыдычныя кансультацыі для шматдзетных маці

*Такім чынам юрысты павіншуюць жанчын з Днём маці.*

Адвакаты, супрацоўнікі натарыяту акажуць юрыдычныя кансультацыі жыхаркам Віцебска 13 кастрычніка. Кампетэнтныя спецыялісты бясплатна адкажуць на пытанні, якія тычацца спагнання аліментаў і іншай сацыяльнай дапамогі.

Кансультацыі юрыстаў прымеркаваны да Дня маці, які адзначаецца 14 кастрычніка.

Сустрэчы пройдуць з 11 да 13 гадзін па адрасе: Віцебск, вуліца «Праўды», д.18, кабінет 19. Запісацца на прыём можна па тэлефоне (+375 212) 61-65-16.

**Васіль КОРЗУН.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для "Народнай Волі"

## Точаць зуб…

Інтэрнэт увесь час торгае беларускіх чыноўнікаў (уключна з чыноўнікамі ад СМІ) сваёй адноснай свабодай, непадкантрольнасцю. Хочацца неяк прыціснуць, зацугляць. Свежы сімптом – абмеркаванне гэтай тэмы ў апошняй перадачы "Клуб рэдактараў" на тэлеканале "Беларусь-1".

У прыватнасці, **Уладзімір Пярцоў,** дырэктар прадстаўніцтва міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір" у Беларусі, зазначыў, што *"ў нашай краіне адно з самых ліберальных заканадаўстваў, якое практычна не рэгулюе інтэрнэт-сферу масавай камунікацыі"*, між тым як *"суседзі ўжо зрабілі болей жорсткім, змянілі сваё заканадаўства"*. А нядаўна прызначаны міністр інфармацыі **Алесь Карлюкевіч** заявіў, што новая рэдакцыя закона аб СМІ мусіць закрануць найперш *"выступленні ў сацсетках, інтэрнэце"*.

Адразу ж падкрэслю: тое, што нібыта інтэрнэт у нас фактычна па-за законам, – няпраўда. На гэту сферу цалкам распаўсюджваецца звычайнае, "афлайнавае" заканадаўства. І ўжо нямала прыкладаў, калі кагосьці судзілі, напрыклад, за паклёп у сеціве. Няма розніцы, дзе выступіў паклёпнік – у друкаваным выданні, на сайце або проста плявузгаў языком. Закон дастане ў кожным разе.

Яшчэ болей за часамі папярэдняга міністра інфармацыі **Ліліі Ананіч** закон аб СМІ ўжо затачылі адмыслова супраць анлайнавых рэсурсаў. Па-першае, іх прыраўнавалі да звычайных СМІ; па-другое, Мінінфарм атрымаў права блакіраваць сайты нават без рашэння суда. Іначай кажучы, гэта значна прасцей, чым закрыць газету. Так што беларускі закон у гэтым плане і так суровы, недэмакратычны, бо ў рэдакцыі вэб-СМІ няма нават механізму, каб абскардзіць такое рашэнне.

Калі ж пачынаюцца размовы, што сеціва варта дадаткова зарэгуляваць, то гэта азначае адно: свярбяць рукі яшчэ мацней прыціснуць свабоду выказвання. Асабліва напружваюць уладу сацыяльныя сеткі. Яны асацыіруюцца ў чыноўнікаў з арганізацыяй каляровых рэвалюцый, майданаў. Нездарма ж так "вінцілі" блогераў, што рабілі стрымы падчас веснавых акцый пратэсту. Але ваяваць з сацыяльнымі сеткамі – глухі нумар. У іх сядзяць мільёны беларусаў. Кожнаму рот не заткнеш.

Так, у сеціве стае і бруду, хтосьці злоўжывае ягонай вольніцай. Аднак у вырашэнні гэтай праблемы нельга перагінаць кій.

Можна, вядома, пераймаць "перадавы досвед" Расіі, Казахстана ды іншых аўтарытарных рэжымаў у сферы змагання з сецівам. Але, па-першае, гэта толькі азмрочыць імідж беларускіх улад, якія і так у хвасце розных рэйтынгаў свабоды слова, затое лідары ў спісах ворагаў інтэрнэту. Па-другое ж, эфект акажацца вельмі абмежаваным. Пры блакіраванні сайтаў, сацыяльных сетак карыстальнікі даволі лёгка знаходзяць абыходныя шляхі.

Асобна насцярожвае тое, што, наколькі можна меркаваць па выказваннях у "Клубе рэдактараў", нейкія змены ў закон аб СМІ рыхтуюцца без удзелу грамадскасці. Так было, між іншым, і мінулым разам, пры канцы 2014 года, калі драконаўскія палажэнні пра інтэрнэт-медыі працягнулі ў закон ціхай сапай (хоць папярэдне абяцалі, што абмяркуюць з Беларускай асацыяцыяй журналістаў).

Цяпер жа мы бачым, што пры новым міністры (прызначэнне якога хто-ніхто палічыў знакам адлігі) могуць цішком дакруціць тое, што недакруцілі пры Ананіч. Праўда, спадар Карлюкевіч зрабіў агаворку, што *"важна, каб закон не выконваў функцыі цэнзара і не абмяжоўваў грамадства і яго права на свабоду выказвання"*.

Але ж у нас закон аб СМІ і так драконаўскі. І сам Мінінфарм дэ-факта мае функцыі цэрбера. Калі ўжо на тое, дык у дэмакратычнай краіне такога ведамства ўвогуле не мусіць быць (і шмат дзе без яго выдатна абыходзяцца). У нас жа яно, напрыклад, надзелена кампетэнцыяй блакіраваць інфармацыю, распаўсюд якой "здольны нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь". Прычым наяўнасць шкоды вызначае чыноўнік. І пры жаданні такое кляймо можна паставіць на любое крытычнае выступленне прэсы. Што гэта, калі не замаскіраваная цэнзура?

Таму скажу так: закон аб СМІ ў нас, вядома, кепскі, але ж лепей бы яго ўжо больш не чапалі. Бо, як жартуюць у сацсетках, што ні робіць беларускі Мінінфарм, атрымліваецца аўтамат Калашнікава.

На добры лад новаму міністру, калі ён сапраўды заклапочаны свабодай слова, варта было б запрасіць за "круглы стол" незалежных журналістаў, рэдактараў, прадстаўнікоў БАЖ. У гэтай арганізацыі, дарэчы, даўно напрацаваны пакет прапаноў што да лібералізацыі заканадаўства аб СМІ, ды толькі гэты пакет ужо каторы год адфутбольваюць.

Тачыць жа вайну супраць сеціва – і ганебны занятак, і бесперспектыўны. Як пісаў беларускі класік, "каб сонца засланіць, вушэй асліных мала". Не будзьце цемрашаламі, панове!

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



Зянон ПАЗЬНЯК:

## «Дыягназ ім пастаўлены даўно...»

*Лідар КХП–БНФ распавёў "Народнай Волі" пра сённяшнюю Партыю БНФ і яе лідараў.*

Нагадаем, не так даўно новым кіраўніком партыі стаў **Рыгор Кастусёў**. Папярэдні старшыня **Аляксей Янукевіч** не мог вылучаць сваю кандыдатуру, бо статут забараняе аднаму чалавеку займаць пасаду старшыні больш як два тэрміны запар.

**– Ці цікава вам, Зянон Станіслававіч, тое, што зараз адбываецца ў Партыі БНФ, якая некалі з'явілася на свет дзякуючы ў першую чаргу вашым намаганням?** – запытаўся я ў З.Пазьняка.

– Шчыра кажучы, пра перамены ў Партыі БНФ я ведаю не таму, што адмыслова гэтым цікаўлюся. Проста калі такая інфармацыя "круціцца" ў інтэрнэце, то не абмінаеш яе.

Што тычыцца сённяшняга стану вышэйзгаданай арганізацыі і тых, хто ёй кіруе, то тут асабліва няма пра што гаварыць. За ўвесь час пасля расколу партыя, па сутнасці, нічога талковага не зрабіла. Было шмат пустаты, грантавай дзейнасці, заяў. Адзначаліся нейкімі канфліктамі і ўнутраным змаганнем. Адным словам, пералівалі з пустога ў парожняе. Гэта ўсё – звычайны цырк, бо ў палітыцы не зроблена нічога.

**– А што найперш павінны былі зрабіць?**

– Яны нічога не змаглі зрабіць таму, што іх дзейнасць – імітацыя палітыкі і імітацыя партыі. У партыі і палітыцы ёсць элементарныя рэчы, па якіх жыве арганізацыя. І самае галоўнае – выхаваць лідара, бо калі няма лідара, то няма і партыі. Таксама неабходны дзеяздольныя структуры. Акрамя таго, трэба мець ідэю, якая будзе цікавая не толькі для партыйцаў, але і для грамадства. Нічога гэтага ў Партыі БНФ сёння няма. Яны нават узаконілі тое, што ў многіх партыях не робіцца прынцыпова. Гэта зроблена альбо таму, што структурай кіруе агентура, альбо там проста працуюць аматары, якія нічога не разумеюць у палітыцы.

**– Пра што ідзе гаворка?**

– У Партыі БНФ існуе абмежаванне тэрміну кіравання для старшыні. У дэмакратычных структурах не павінна быць такога абмежавання, усё павінна адбывацца праз выбары. У адваротным выпадку ніколі ў партыі сапраўднага лідара не будзе. А будуць адны закулісныя гульні, праблемы і імітацыі. Гэта не партыйныя турботы, а таму глядзець на ўсё гэта вельмі смешна.

**– Адным словам, не важна, хто сёння кіруе партыяй – Аляксей Янукевіч альбо Рыгор Кастусёў, бо вынік будзе адзін і той жа?**

– У такой арганізацыі аб'ектыўна не можа ўтварыцца лідар. Структура зроблена так. Замест гэтага атрымаецца валтузня паміж нейкімі людзьмі, якія адзін аднаму будуць выстаўляць прэтэнзіі. Адным словам, дзіцячы сад! Агентура заўсёды стараецца ўвесці гэта ў арганізацыю. Дарэчы, мы добра бачым, як гэта робіцца і на Захадзе.

**– Каму патрэбна такая, як вы кажаце, імітацыя палітыкі?**

– Такія арганізацыі існуюць зусім для іншых мэт. Альбо для таго, каб атрымліваць гранты, альбо каб дурыць галаву самім сабе і грамадскасці. І гэтая камедыя ў Партыі БНФ назіраецца ўжо каля 17 гадоў.

У 1999 годзе партыю раскалолі. Калі арганізацыя раскалваецца, яна не можа быць моцнай. Разбіты гаршчок можна склеіць, але гэта ўжо не тое. А тыя, хто найперш паўдзельнічаў у тым расколе, пайшлі па сваім шляху, які і прывёў да сённяшняга стану. Яны ўдзельнічаюць ва ўсіх выбарах, гэта, відаць, для іх галоўнае. Паўдзельнічалі – атрымалі гранты. А на самай справе, па сутнасці, выступаюць спарынг-партнёрамі ўлады, і нічога, акрамя карысці для ўлады, у такім удзеле няма.

**– КХП–БНФ сёння таксама не вельмі заўважана ў палітычнай актыўнасці.**

– Прынамсі, мы знайшлі нішу для сваёй практычнай дзейнасці ў Беларусі. І гэтая дзейнасць зроблена. Адны Курапаты чаго вартыя… А казаць пра Партыю БНФ больш не хачу, дыягназ ім пастаўлены даўно.

**– Сёння, здаецца, няма ніводнай моцнай апазіцыйнай партыі ў краіне. Ці не так?**

– Няма, таму што рэжым фактычна знішчыў усе умовы для стварэння арганізацый і існавання грамадзянскай супольнасці. Гэта разбураецца так, як разбураецца беларуская адукацыя і культура. Увогуле, ідзе разбурэнне нацыі. І зараз ёсць людзі, якія гэта разумеюць і стараюцца дзейнічаць на карысць нацыі, а ёсць тыя, хто плыве па хвалях лёсу.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Дэпутат Канапацкая стварае новы палітычны рух…

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая абвясціла аб стварэнні грамадзянскай кампаніі "Наперад, Беларусь!". Пра гэта актывістка АГП напісала на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку".

Адметна, што Канапацкая ўжо ў першай фразе крытыкуе не толькі ўладу, але і апазіцыю. «Беларусы не вераць не толькі дзейнай уладзе, але і апазіцыі, і маюць важкія падставы для гэтага – адсутнасць поспехаў і перамог улады і апазіцыі прывяла краіну да цяжкага эканамічнага і палітычнага становішча», – адзначае Канапацкая.

«Год майго дэпутацтва прадэманстраваў, што перамены не проста магчымы, амаль усё гатова для ўвасаблення іх у жыццё. Але аднаго майго голасу мала, мне неабходна падтрымка большасці грамадзян краіны», – піша дэпутат.

Рух Канапацкай будзе называцца «Наперад, Беларусь!». Паводле яе слоў, гэта «прынцыпова новы палітычны рух». Мэты руху – абарона правоў грамадзян у дзяржаўных органах, а таксама атрыманне дэпутацкай большасці ў парламенце.

Адзначаецца, што структура кампаніі «Наперад, Беларусь!» будзе гарызантальнай. «Кампанія фінансуецца шляхам збору сродкаў на сваю дзейнасць – краўдфандынга, не з'яўляецца закладнікам палітыкі любых фондаў, арганізацый і прыватных асоб, якія дыктуюць праз прадастаўленыя рэсурсы свае ўмовы», – гаворыцца ў заяве.

Канапацкая абяцае, што кампанія будзе штомесяц рабіць справаздачу аб патрачаных сродках і выкананай рабоце. «Ніякіх пасад у руху не будзе, мы дамо справаздачу за кожную капейку», – абяцае дэпутат.

Цяпер рух дэкларуе актыўны ўдзел у мясцовых выбарах.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька адзначыў, што Ганна Канапацкая не каардынавала з ім ідэю стварэння новага руху.

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

Што, наш парламент будзе абмяркоўваць пытанне аб змене выбарчага заканадаўства?

Калі сыходзіць са слоў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоля Лябедзькі**, то гэта адбудзецца менавіта на бліжэйшай сесіі. У адным з інтэрв'ю ён сказаў: *"Мы разам з нашым дэпутатам Палаты прадстаўнікоў* (маецца на ўвазе Г.Канапацкая. – **Рэд.**) *прайшлі ўвесь шлях бюракратычнай цяганіны, каб вынесці пытанне аб змене выбарчага заканадаўства на бліжэйшую сесію. І гэта пытанне будзе там абмяркоўвацца"*.

Хачу, каб "Народная Воля" ўдакладніла: ці сапраўды плануецца разгляд у парламенце прапаноў аб унясенні змен у Выбарчы кодэкс альбо спадар Лябедзька ўводзіць электарат у зман?

**Наталля ЛАГУНОВІЧ, выбаршчыца.**

### Ці прыме Палата прадстаўнікоў да разгляду праект закона, распрацаванага Ганнай Канапацкай, – даведаемся на наступным тыдні

Пакуль законапраекта аб зменах у Выбарчы кодэкс няма ў спісе тых, што запланаваны да разгляду на гэтай сесіі Палаты прадстаўнікоў. Але вось што паведаміў "Народнай Волі" памочнік дэпутата Ганны Канапацкай **Дзяніс Ціханенка:**

*– Як правіла, усе законапраекты, якія разглядаюцца на сесіі, зацвярджаюцца кіраўніком дзяржавы. Напэўна, ужо многія забыліся пра тое, што дэпутат таксама мае права ўносіць на разгляд сесіі падрыхтаваныя праекты законаў. І на гэта згода кіраўніка дзяржавы не патрабуецца.*

*На наступным тыдні Ганна Канапацкая сапраўды будзе ўносіць на разгляд Палаты прадстаўнікоў законапраект аб зменах у Выбарчы кодэкс. Але ці будзе ён разгледжаны на сесіі – гэта вялікае пытанне. Мы сапраўды зрабілі ўсё для гэтага, але як пойдзе справа – не вядома. Справа ў тым, што спачатку прапанову аб разглядзе такога законапраекта разгледзіць савет Палаты прадстаўнікоў. Адобраць яны яго ці заблакіруюць па нейкіх фармальных прычынах – стане вядома ў бліжэйшы час.*

**Марына КОКТЫШ.**



## Сёння, 10 кастрычніка, – Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання

На сённяшні дзень Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе выносяцца і выконваюцца смяротныя прысуды.

У лістападзе 1996 года на рэферэндуме 80,44% тых, хто прагаласаваў, выказаліся супраць адмены смяротнага пакарання ў Беларусі, і толькі 17,93% – за адмену.

Смяротнае пакаранне ў Беларусі выносіцца за асабліва цяжкія забойствы і толькі мужчынам.

Родныя асуджанага не ведаюць дату выканання прысуду і не атрымліваюць цела забітага для пахавання.

За 20 гадоў былі выкананы больш за 400 смяротных прысудаў, і толькі адзін чалавек быў памілаваны прэзідэнтам.

У 2009 годзе была распачата беларуская кампанія "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання". Ужо пяць гадоў праводзіцца інфармацыйная кампанія "Тыдзень за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі". У гэтым годзе беларускія праваабаронцы далучыліся да Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання, якая аб'ядноўвае каля 150 грамадскіх арганізацый, што займаюцца гэтай праблемай.

На 9 кастрычніка 2017 года анлайн-петыцыю за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі падпісалі 16.528 чалавек.

Паводле статыстыкі Міністэрства юстыцыі РБ, з 1990 года ў Беларусі не выносіліся смяротныя прысуды толькі ў 2012-м і 2014 гадах. Найбольшая колькасць смяротных прысудаў была вынесена ў 1998 годзе – 47, у 1997-м – 46, у 1995 годзе – 37. У 2016 годзе былі вынесены 4 смяротныя прысуды.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

### Отсидел 10 суток и штраф получил

Футбольный болельщик Александр Венгерский отсидел 10 суток за решеткой после того, как выбежал в Борисове на футбольное поле с бело-красно-белым флагом.

На суде он заявил, что после задержания его ставили на колени сотрудники ОМОНа и били по почкам, а также вызывали ему "скорую помощь".

А.Венгерский получил также штраф в сумме 460 рублей (20 базовых величин) за участие в уличной акции против военных учений «Запад-2017», прошедшей 8 сентября в Минске. Такое решение, как сообщил правозащитный сайт spring96.org, 9 октября вынес суд Вилейского района Минской области.

(По инф. БелаПАН.)

ВЕРДЫКТ

### ...За няпраўдзівае паведамленне

10 жніўня падчас рабочай паездкі ў Брэст Аляксандра Лукашэнкі жанчына ў стане алкагольнага ап'янення з мабільнага тэлефона свайго сужыцеля патэлефанавала па нумары 102 і заявіла, што «Лукашэнка да Брэста не даедзе, там закладзена бомба».

Учора суд Маскоўскага раёна Брэста прызнаў жанчыну вінаватай па ч.1 арт.340 КК (заведама няпраўдзівае паведамленне аб небяспецы) і прыгаварыў да аднаго года пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на адзін год і абавязкам выканаць грамадска карысныя працы на працягу 120 гадзін.

ЗДАРЭННЕ

## У Ляхавіцкім раёне ў лабавым сутыкненні дзвюх фур з прычэпамі загінуў грамадзянін Польшчы





У Ляхавіцкім раёне пры сутыкненні двух грузавых аўтамабіляў адзін кіроўца загінуў, другі шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы.

Як паведаміла ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама, аварыя здарылася 9 кастрычніка каля 5.53 на 452-м кіламетры аўтадарогі Р43 мяжа Расійскай Федэрацыі (Звянчатка) – Крычаў – Бабруйск – Івацэвічы.

Паводле папярэдняй інфармацыі, 43-гадовы грамадзянін Польшчы (жыхар горада Лукаў), які знаходзіўся за рулём Volvo з прычэпам, выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе ўчыніў лабавое сутыкненне з фурай MAN з прычэпам, якой кіраваў 25-гадовы жыхар Слуцка.

У выніку сутыкнення кіроўца Volvo памёр на месцы. Кіроўца беларускай фуры шпіталізаваны ў Ляхавіцкую цэнтральную раённую бальніцу, дзе цяпер урачы змагаюцца за яго жыццё.

СУД!

## Вось дык напазычаў – 500 тысяч долараў!



Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска, дэпутат Мінгарсавета, член Камуністычнай партыі Беларусі Мікалай Петрамовіч быў затрыманы яшчэ ў лютым гэтага года па падазрэнні ў махлярстве. Паводле звестак абвінавачання, з 2008-га па 2016 год ён шляхам падману атрымаў у доўг ад розных людзей каля 500 тысяч долараў. Усяго ў справе фігуруе больш за 30 пацярпелых.

На папярэдніх пасяджэннях суда сведкі распавядалі, што давалі грошы Петрамовічу пад развіццё яго бізнесу, некаторых ён бышцам бы абяцаў прасунуць у чарзе на кватэру.

*"У пятніцу яшчэ будуць выступаць сведкі па справе, а вось на наступным тыдні ўжо, відаць, пачнуцца спрэчкі бакоў"*, – паведамілі "Народнай Волі" ў судзе Першамайскага раёна.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

100 РАДКОЎ МІХАСЯ СКОБЛЫ



## Школа без Каліноўскага

Ёсць такая народная прыказка: сей авёс у гразь – будзеш князь. Сэнс яе ў тым, што ўсё трэба рабіць своечасова, і тады атрымаеш добры ўраджай. Прыказка тая міжволі згадваецца, калі ўсплываюць у памяці школьныя гады, урокі па ўлюбёнай беларускай літаратуры. Столькі гадоў прайшло, а і сёння не забываюцца і непаседліва-цікаўны Данік Малец з "Сірочага хлеба" Янкі Брыля, і скватна-бесцырымонная Сцёпчыха з "Пяці лыжак заціркі" Змітрака Бядулі, і наіўна-даверлівая Ганна Чарнушка з "Людзей на балоце" Івана Мележа. Не шкадавала тагачасная школьная праграма гадзін і на выдатную паэзію – да гэтай пары ў памяці і "Паміж пяскоў егіпецкай зямлі" Максіма Багдановіча, і "Сінія касачы" Пімена Панчанкі, і "Курган" Янкі Купалы.

За заданне вывучыць на памяць названую паэму я і сёння ўдзячны настаўніцы Ірыне Антонаўне Венскай (дай Божа ёй здароўя і доўгіх гадоў жыцця!). "Курган" – адна з вяршыняў купалаўскай паэзіі, якая ніколі не страціць сваёй актуальнасці. Тым больш яна актуальная ў сённяшняй Беларусі, дзе адносіны ўлады да гусляроў-пісьменнікаў ніяк нельга назваць нармальнымі. Прыгадайма словы пыхлівага князя: "Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям – / поўны гуслі насыплю дукатаў". І адказ гусляра: "Скурганіў бы душу чырванцом тваім я, / гуслям, княжа, не пішуць законаў"; "сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць – / не скуеш толькі дум ланцугамі".

Дзіцячая памяць учэпістая і пакоўная, як вандроўны чамадан на калёсіках. Калі ў яе засекі нешта цікавае трапляе, то застаецца на ўсё жыццё, і не раз у жыцці спатрэбіцца.

Зразумела, школьныя праграмы з той незабыўнай для мяне пары неаднойчы змяняліся, удакладняліся, дапаўняліся. А найчасцей – караціліся, паколькі на беларускую мову і літаратуру там адводзілася ўсё менш і менш гадзін.

Вось і сёлета Міністэрства адукацыі вырашыла падкараціць і без таго ўжо кароткія, як зайцаў хвост, праграмы па беларускай літаратуры. З іх прыбралі апавяданні "У дубах" Якуба Коласа і "Роднае карэнне" Максіма Гарэцкага, драматычны абразок "Датрымаў характар" Алеся Гаруна, верш "Рэквіем па кожным чацвёртым" Анатоля Вярцінскага. На ўроках беларускай літаратуры школьнікі больш не будуць знаёміцца з Бібліяй, бо, ці бачыце, яе вывучаюць на ўроках літаратуры рускай. Гэта тлумачэнне яшчэ можна было б прыняць, калі б не існавала перакладаў Бібліі на сучасную беларускую мову. А іх жа ажно тры – Янкі Станкевіча, Васіля Сёмухі і Уладзіслава Чарняўскага. Дык навошта беларускім школьнікам Біблія па-руску?

Знікнуць са школьных падручнікаў асобныя творы Кірылы Тураўскага, Янкі Лучыны, Цёткі, Янкі Купалы. У апошняга адшчыкнулі хіба найбольш – вершы "Як у казцы", "У вырай", "Паязджане", "На сход" (памятаеце – "На сход, на ўсенародны грозны сход, / ідзі, разгневаны, абрабаваны народ!"; няйнакш чыноўнікі ад адукацыі ўспрынялі гэтыя радкі як заклік выходзіць на плошчу).

Не будуць старшакласнікі вывучаць і вершаваны раман "Родныя дзеці" Ніла Гілевіча. А там жа столькі тэм узнята – і патрыятызм, і сям'я, і знаходліва высмеяная паэтам трасянка, на якой размаўляе сынок-манкурт. Хіба гэта ўсё не надзённа для нашага грамадства?

Дарэшты выкінута са школы і публіцыстыка Кастуся Каліноўскага. Гэта значыць, што дзевяцікласнікі ўжо нават і ўяўлення не мецьмуць ні пра "Лісты з-пад шыбеніцы", ні пра "Мужыцкую праўду". А там, гавару гэта з поўнай адказнасцю, сцісла і даходліва выкладзена нацыянальная праграма для беларусаў – як нам жыць, чым кіравацца, з кім дружыць, каго асцерагацца.

Проста дзіву даешся, як малады (24-гадовы!) Каліноўскі, для паважнасці ўзяўшы сабе псеўданім *Яська – гаспадар з-пад Вільні*, так трапна і празорліва вызначыў, што павінны былі зрабіць беларусы яшчэ ў XIX стагоддзі, не зрабілі ў XX і не спяшаюцца рабіць у XXI стагоддзі. Каліноўскі ўсё распісаў, склаў для сваіх суайчыннікаў своеасаблівы кодэкс будаўніка Беларускай дзяржавы.

Вось у 1-м нумары "Мужыцкай праўды" гучыць яго палымяны заклік да салідарнасці: "Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмася разам!" Галоўная тэма 2-га нумару – грамадзянскае непадпарадкаванне: "Калі хочаце бараніць сваю зямлю, то не служэце паншчыны і не плацеце падаткі ў казну – от і будзе справядлівасць". У 3-м нумары абгрунтоўваецца каштоўнасць свабоды і несакрушальная вера ў свой народ, кіраваны Божым провідам: "Нам вольнасці трэба, але такой, якую мы самі паміж сабой зробім. Толькі, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваць трудна, бо Боская моц вялікая, а народу многа". У 4-м нумары адразу кідаецца ў вочы крылаты выраз, з якога павінны пачынацца ўсе беларускія падручнікі па паліталогіі: "Не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа – гэтак, дзецюкі, ёсць на цалюсенькім свеце". Тамсама знаходзім словы пра зрусіфікаваную школу: "У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаць па-маскоўску, каб цябе зусім спраўна перарабіць на маскаля".

Мы безліч разоў чулі, як доблеснае беларускае войска збіраецца касцьмі легчы, а не прапусціць натаўскія танкі на Расію. Вось жа і пра гэта яшчэ сто пяцьдзясят пяць гадоў таму напісаў *Яська – гаспадар з-пад Вільні* ў 5-м нумары сваёй газеты: "Нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае ўсіх нас у вечную няволю". 6-ы нумар газеты прысвечаны пытанню веры, і тут Каліноўскі не вагаецца: "Цар маскоўскі перакупіў многа папоў і вялеў нас у схізму запісаць і, як антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую веру". І нарэшце 7-ы, апошні, нумар "Мужыцкай праўды" адкрыта заклікае да ўзброенага паўстання: "Трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды косамі туды, дзе дабіваюцца волі і праўды, адкуль цягне на нас нячыстая маскоўская сіла".

Зноў – як у выпадку з Купалам. Той заклікаў на сход, а Каліноўскі – да паўстання. Таму абодвух – прэч.

Без пералічаных твораў школьная беларуская літаратура выглядае як дрэва са збуцвелай сарцавінай. Нібыта з выгляду ўсё на месцы – і галіны да сонца імкнуцца, і ў кроне птушкі абзываюцца, а наскочыць бура – і зламаецца нетрывалы ствол...

Цягам апошніх гадоў Каліноўскага паступова, усё з большым імпэтам стараюцца дыскрэдытаваць у прыўладных СМІ (асабліва тут вызначыўся часопіс "Беларуская думка"), у тых жа школьных падручніках па гісторыі. Цяпер чарга дайшла і да ягонай празорлівай публіцыстыкі, ад якой адлучылі беларускую школу.

Дзеля чаго ўсё гэта робіцца? Каму перашкаджалі ў школьнай праграме творы Купалы, Коласа, Гаруна, Цёткі, Гарэцкага, Гілевіча, Вярцінскага і Кастуся Каліноўскага – нацыянальнага героя №1? Адказ мне тут бачыцца адзін. І ён несуцяшальны.

Школа са збуцвелай сарцавінай выпусціць у свет і людзей з чарвівінкай унутры, з якіх не атрымаецца народу, здольнага выжыць у часы глабальных узрушэнняў. І хтосьці дужа зацікаўлены, каб новае пакаленне беларусаў вырасла падатлівым, каб не мела ў сабе здаровай нацыянальнай сарцавіны, якую ў чалавеку змалку ўзгадоўваюць родная гісторыя, родная мова і родная літаратура.

АКТУАЛЬНО

# С 1 января могут измениться тарифы на ЖКУ

*Министерство антимонопольного регулирования совместно с Министерством жилищно-коммунального хозяйства разработали «Тарифную тетрадь», в которой прописаны новые тарифы на жилищно-коммунальные услуги. Ввести их планируется с 1 января. Пока же «Тарифная тетрадь» разослана на согласование в бизнес-сообщества. Ожидается, что в ближайшее время она будет направлена на рассмотрение А.Лукашенко.*

Предполагаемые изменения коснутся всех жилищно-коммунальных услуг. Причем вырастут не только тарифы, но в некоторых случаях, как, например, при оплате пользования лифтом или вывоза мусора, несколько изменится сам механизм расчетов. Например, сейчас за **услуги лифта** платят жильцы второго и выше этажей 1,28 рубля в месяц на одного человека. С нового года эту цифру предлагается увеличить до 1,38 рубля, при этом *"установить поправочный коэффициент на каждый этаж свыше (ниже) 9-го этажа"*. Что касается **вывоза мусора**, то если сейчас с одного жильца взимается плата в 0,968 рубля, то с 1 января в домах, оборудованных мусоропроводом, эту плату могут увеличить до 1,38, в домах без мусоропровода – до 1,01 рубля.

Что касается **теплоснабжения,** то сегодня за 1 Гкал все белорусы платят одинаково – 16,925 рубля. Разработчики «Тарифной тетради» предлагают ввести дифференциацию. В квартирах, где используются установленные приборы индивидуального учета расхода тепловой энергии, 1 Гкал будет стоить 19,2421 рубля. В квартирах без таких счетчиков – 21,3801. Если же данные приборы установлены, но не используются – 25,6561 рубля. Сделано это, как поясняют разработчики «Тарифной тетради», «*в целях стимулирования населения к энергосбережению*». Стоит отметить, что с 1 января планируется снизить цены на отопление в квартирах и домах, где никто не прописан. Владельцы таких помещений платят за теплоснабжение полный экономически обоснованный тариф. Сегодня он составляет 91,18 рубля за 1 Гкал. С 1 января предлагается его уменьшить до 86,41 рубля.

Ну и наконец что касается электро- и газоснабжения. Предлагаются следующие тарифы:

### Электроснабжение, рублей за 1 кВт·ч

| Наименование услуги | Тарифы | | |
|---|---|---|---|
| | Действующие с 1 сентября 2017 года. | Предлагаемые к введению в 2018 году | *Справочно: с 1 января 2018 года в соответствии с действующим порядком* |
| Тарифы дифференцированы в зависимости от: | | | |
| 1.оборудования жилого дома (квартиры) в установленном порядке электрической плитой: | | | |
| оборудованных в установленном порядке электрическими плитами: | | | |
| одноставочный тариф | | | |
| до 250 кВт·ч включительно | 0,1094 | 0,1230 | *0,1230* |
| свыше 250 до 400 кВт·ч включительно с повышающим коэффициентом 1,3 | 0,1422 | 0,1599 | *0,1599* |
| свыше 400 кВт·ч (по тарифу, обеспечивающему полное возмещение экономически обоснованных затрат) | 0,19 | 0,209 | *0,209* |
| не оборудованных в установленном порядке электрическими плитами: | | | |
| одноставочный тариф | | | |
| до 150 кВт·ч включительно | 0,1287 | 0,1447 | *0,1447* |
| свыше 150 до 300 кВт·ч включительно с повышающим коэффициентом 1,3 | 0,1673 | 0,1881 | *0,1881* |
| свыше 300 кВт·ч (по тарифу, обеспечивающему полное возмещение экономически обоснованных затрат) | 0,19 | 0,209 | *0,209* |
| не оборудованных в установленном порядке электрическими плитами и системами централизованного горячего водоснабжения и снабжения природным газом: | | | |
| одноставочный тариф | | | |
| до 300 кВт·ч включительно | 0,1287 | 0,1447 | *0,1447* |
| свыше 300 кВт·ч включительно с повышающим коэффициентом 1,3 | 0,1673 | 0,1881 | *0,1881* |
| 2.использования электроэнерии для целей отопления и горячего водоснабжения*: | | | |
| в период минимальных нагрузок (с 23.00 до 6.00 – с учетом понижающего коэффициента 0,7 к уровню тарифа на электрическую энергию для потребителей с установленными газовыми плитами | 0,09 | 0,0129 | *0,1013* |
| в остальное время суток – на уровне тарифа на электрическую энергию для потребителей с установленными газовыми плитами с применением повышающего коэффициента 1,3 | 0,1674 | 0,0239 | *0,1881* |
| 3.времени суток использования электрической энергии *(по временным периодам)* для граждан, жилые дома (квартиры) которых оборудованы в установленном порядке: | | | |
| электрической плитой: | | | |
| в период минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) – с применением коэффициента 0,7; | 0,0764 | 0,0861 | *0,0861* |
| в период максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) – с применением коэффициента 2; | 0,2189 | 0,2460 | *0,2460* |
| газовой плитой: | | | |
| в период минимальных нагрузок (с 22.00 до 17.00) – с применением коэффициента 0,7; | 0,09 | 0,1013 | *0,1013* |
| в период максимальных нагрузок (с 17.00 до 22.00) – с применением коэффициента 2 | 0,2575 | 0,2894 | *0,2894* |

* Для установления тарифов для целей нагрева на уровне, обеспечивающем паритет с использованием тепловой энергии потребуется разработка порядка компенсации выпадающих доходов энергоснабжающих организаций ГПО "Белэнерго" за счет средств бюджета.

### Газоснабжение природным и сжиженным газом

| Наименование услуги | Тарифы | | |
|---|---|---|---|
| | Действующие с 1 сентября 2017 года | Предлагаемые к введению в 2018 году | *Справочно: с 1 января 2018 г. в соответствии с действующим порядком* |
| **1.Газ природный,** ***рублей за 1 куб. м:*** | | | |
| 1.1.используемый с установленными приборами индивидуального учета расхода газа: | | | |
| при наличии индивидуальных газовых отопительных приборов в зависимости от годового потребления газа *(нарастающим итогом):* | | | |
| в отопительный период: | | | |
| до 3000 куб. м включительно | 0,0983 | 0,1204 | *0,1204* |
| свыше 3000 до 5500 куб. м включительно с повышающим коэффициентом 1,3, но не выше цены, обеспечивающей полное возмещение экономически обоснованных затрат на оказание этой услуги | 0,1278 | 0,1565 | *0,1565* |
| свыше 5500 куб. м по цене, обеспечивающей полное возмещение экономически обоснованных затрат | 0,4226 | 0,4648 | *0,4648* |
| в летний период: | | | |
| до 3000 куб. м включительно | 0,3081 | 0,3296 | *0,3296* |
| свыше 3000 до 5500 куб. м включительно с повышающим коэффициентом 1,3 | 0,4005 | 0,4285 | *0,4285* |
| свыше 5500 куб. м по цене, обеспечивающей полное возмещение экономически обоснованных затрат | 0,4226 | 0,4648 | *0,4648* |
| при отсутствии индивидуальных газовых отопительных приборов | 0,3081 | 0,3296 | *0,3296* |
| 1.2.используемый без приборов индивидуального учета расхода газа: | | | |
| при наличии газовой плиты и централизованного горячего водоснабжения или индивидуального водонагревателя (за исключением газового) *(с одного проживающего в месяц)* | 2,44 | 2,61 | *2,61* |
| при наличии газовой плиты и индивидуального газового водонагревателя (при отсутствии централизованного горячего водоснабжения) *(с одного проживающего в месяц)* | 7,05 | 7,54 | *7,54* |
| при наличии газовой плиты и отсутствия централизованного горячего водоснабжения и индивидуального газового водонагревателя *(с одного проживающего в месяц)* | 3,98 | 4,25 | *4,25* |
| при наличии индивидуальных газовых отопительных приборов *(за 1 кв. метр общей площади жилого помещения в месяц):* | | | |
| в отопительный период | 0,4874 | 0,5214 | *0,5214* |
| в летний период | 0,1827 | 0,1954 | *0,1954* |
| **2.Газ сжиженный,** *рублей за 1 кг:* | | | |
| 2.1.используемый с установленными приборами индивидуального учета расхода газа: | | | |
| При наличии индивидуальных газовых отопительных приборов: | | | |
| в отопительный период | 1,7579 | 1,8804 | *1,8804* |
| в летний период | 0,8216 | 0,8789 | *0,8789* |
| При отсутствии индивидуальных газовых отопительных приборов | 0,8216 | 0,8789 | *0,8789* |
| 2.2.используемый без приборов индивидуального учета расхода газа: | | | |
| при наличии газовой плиты и централизованного горячего водоснабжения или индивидуального водонагревателя (за исключением газового) *(с одного проживающего в месяц)* | 2,44 | 2,61 | *2,61* |
| при наличии газовой плиты и индивидуального газового водонагревателя (при отсутствии централизованного горячего водоснабжения) *(с одного проживающего в месяц)* | 6,95 | 7,43 | *7,43* |
| при наличии газовой плиты и отсутствии централизованного горячего водоснабжения и индивидуального газового водонагревателя *(с одного проживающего в месяц)* | 3,26 | 3,49 | *3,49* |
| при наличии индивидуальных газовых отопительных приборов *(за 1 кв. метр общей площади жилого помещения в месяц):* | | | |
| в отопительный период | 5,7713 | 6,1736 | *6,1736* |
| в летний период | 0,8216 | 0,8789 | *0,8789* |
| 2.3.в баллонах весом 21 кг в пределах норм потребления: | | | |
| за 1 кг | 0,5835 | 0,6242 | *0,6242* |
| за 1 баллон | 12,25 | 13,10 | *13,10* |
| 2.4.для индивидуальных резервуарных установок (жидкая фаза) за 1 кг | 1,5329 | 1,6397 | *1,6397* |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ФОРМУЛА ЖЫЦЦЯ

## Зінаіда БАНДАРЭНКА: «Гэта не дадатак да пенсіі, а мой жыццёвы прынцып: хачу ўвесь час быць у тонусе»



*Народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка запрашае на курсы дыкцыі і манеры трымацца – такая аб'ява з'явілася ў некаторых СМІ. Мы вырашылі даведацца ў Зінаіды Аляксандраўны, як узнікла ідэя з курсамі, хто іх наведвае і чаму, нарэшце, ёй самой не сядзіцца дома?*

– У курсаў "Тэхніка і культура мовы, ці Асновы майстэрства" – даўняя гісторыя, – перш за ўсё адзначае Зінаіда Аляксандраўна. – Я пачынала іх выкладаць яшчэ ў тыя часы, калі вымушана была сысці з аркестра Міхаіла Фінберга. Спачатку курсы арганізавалі ў Педагагічным універсітэце, а потым – у Палацы моладзі. У педуніверсітэце не было ўмоў, а тут – студыйны павільён, сцэна, мікрафоны, відэазапіс з праглядамі... Гэта вельмі важна, бо мае курсы – не проста звычайныя лекцыі, а менавіта заняткі па пастаноўцы голасу, дыкцыі, артыкуляцыі, манеры трымацца на сцэне альбо ў кадры.

Што прыемна: сёння амаль усе мае слухачы – беларускамоўная моладзь, шмат хто прыходзіць з курсаў "Мова Нанова". Ёсць студэнты журфака. У БДУ якая ўзнікла сітуацыя: пабудавалі цэлы Інстытут журналістыкі, і амаль усе студыйныя павільёны здаюць у арэнду. Бедным студэнтам практычна няма дзе займацца з камерай… Адным словам, жадаючых наведваць курсы ў Палацы моладзі многа.

**– Зінаіда Аляксандраўна, скажыце шчыра: курсы для вас маюць значэнне з фінансавага пункту гледжання?**

– Калі б займалася прыватна, то, магчыма, так, нейкую больш-менш добрую капейчыну мела б... Мая пенсія складае сёння каля 500 рублёў. Гэта з улікам надбаўкі за званне народнай артысткі (63 рублі) і за ўзрост: пасля 75-ці пенсіянерам нешта яшчэ даплачваюць.

Але я вяду курсы не дзеля грошай. Гэта не дадатак да пенсіі, а мой жыццёвы прынцып: хачу ўвесь час быць у тонусе. Мне вельмі прыемна займацца з моладдзю, асабліва беларускамоўнай, у якой беларускасць у душы. Яшчэ 5 гадоў таму я пачынала курсы з пытання, на якой мове выкладаць, і большасць была за рускую мову. А сёння нават такога пытання не ўзнікае, хлопцы і дзяўчаты ведаюць, што Бандарэнка вучыць беларускамоўнаму вымаўленню, і прынцыпова ідуць на мае курсы. Мяне не можа гэта не цешыць яшчэ і таму, што я жыву з верай, што нарэшце зменіцца наша тэлебачанне. І павінны быць тыя, хто зможа працаваць па-беларуску на сапраўдным Нацыянальным беларускім тэлебачанні.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# В чьих руках закон?

В двух соснах запутались чиновники и суды, а страдает простой человек. Я имею в виду процесс, связанный с рассмотрением вопроса о собственности.

В соответствии со статьей 44 Конституции Республики Беларусь государство гарантирует каждому право собственности со своевременным и полным компенсированием стоимости отчужденного имущества, если его отчуждение было принудительным по мотивам общественной необходимости. Такое принудительное отчуждение государство совершило в отношении дома на праве личной собственности гражданина Александра Иосифовича Алькина. Дом и все постройки снесли для строительства на этом участке многоквартирного дома. Собственнику никакая компенсация не выплачена и другой надел для строительства или переноса дома не предоставлен, поскольку на момент сноса дома ничего подобного закон не предусматривал. Таким образом, государство в отношении А.И.Алькина упразднило право собственности гражданина.

Но наступили новые времена. Президент Республики Беларусь в декабре 2013 года издал указ «О некоторых вопросах правового регулирования жилищных отношений». В нем сказано: «…*если законодательством, действовавшим на момент сноса одноквартирного жилого дома, строений, сооружений и насаждений при них, принадлежавших гражданину на праве личной собственности, в связи с изъятием земельного участка для государственных нужд не была предусмотрена выплата денежной компенсации за снесенный жилой дом, то жилое помещение государственного жилищного фонда, полученное этим гражданином в результате такого сноса, независимо от времени его предоставления приватизируется им безвозмездно (без учета квоты, суммы квот), а в случае смерти этого гражданина – членами его семьи, получившими совместно с ним жилое помещение государственного жилого фонда и проживающими в нем*». Казалось бы, иди, гражданин Алькин, в райисполком и оформляй жилое помещение в собственность. Но, оказывается, хорошо на бумаге, да забыли про овраги, а по ним ходить.

Пошел Алькин в исполком. Но получил от ворот поворот. Еще в сентябре 1994 года специальная комиссия произвела оценку квартиры, передаваемой в собственность А.И.Алькина, и определила ее действительную стоимость – 1952 рубля. Райисполком заслушал вопрос о передаче квартир в собственность граждан в пределах жилищной квоты безвозмездно и с доплатой до оценочной стоимости сверх размера квоты и решил разрешить приобретение квартиры в собственность гражданину Алькину с учетом его квоты в сумме 843 рубля с доплатой 1109 рублей.

На следующий день Алькин требуемую сумму оплатил, о чем имеется квитанция. Таким образом, гражданско-правовая сделка купли-продажи состоялась, и Алькин стал собственником жилой площади. Но по указу президента жилая площадь должна быть передана Алькину в личную собственность безвозмездно. Чиновники, очевидно, с президентом не согласились. Они заявили Алькину, что вопроса как такового о передаче ему жилой площади нет, но только нужно получить согласие на приватизацию всех совершеннолетних членов семьи и других постоянно проживающих с ним лиц. На вопрос, на каком это основании нужно чье-то согласие собственнику, в исполкоме сослались на статью 136 Жилищного кодекса Республики Беларусь. Однако в Указе говорится только о собственнике снесенного дома, и никакие другие лица не упоминаются. Из этого вытекает, что никто не вправе воспрепятствовать собственнику в приватизации жилья. В данном же случае дочь Алькина и ее муж согласия на приватизацию дома не дали. Чиновники слукавили. Государство забрало собственность гражданина и должно ему вернуть ее по Указу президента в виде предоставленного в свое время жилого помещения в государственном жилом фонде. Очень простой алгоритм, но…

В споре с чиновниками гражданин бессилен. И пошел Алькин за защитой своих законных прав и интересов в суд. Дело по иску Алькина к исполкому рассматривал суд Советского района. Алькину в удовлетворении исковых требований отказали. Судья обосновал свое решение показаниями представителя администрации Советского района, просившего отказать Алькину в удовлетворении его иска «в связи с отсутствием в настоящее время оснований и в свете требований Указа президента Республики Беларусь №563». Более того, в мотивировочной части своего решения суд сослался как на основание отказа Алькину на подпункты 1.1, 1.2 Указа. Причем эти подпункты – большой секрет! Дело в том, что подпункт 1.1 говорит о том, какие жилые помещения включаются в государственный жилой фонд. Никакого отношения, естественно, к личной собственности граждан он не имеет. В подпункте 1.2 говорится о том, что не подлежат приватизации, обмену, разделу, продаже, предоставлению по договору найма жилые помещения коммерческого использования, жилые помещения социального пользования, жилые помещения в общежитиях и социальные жилые помещения. Сделана еще и ссылка на подпункт 1.1.9 Указа президента от 26 апреля 2010 года №200. Но в нем говорится о приватизации жилого помещения за чеки «Жилье». Алькину не надо приватизировать жилое помещение ни за деньги, ни за чеки «Жилье». Читатели могут попробовать догадаться с трех раз, какое отношение все эти подпункты имеют к вопросу Алькина.

Такое решение районного суда Алькина не удовлетворило, и он обратился в Городской суд с жалобой. Судебная коллегия Городского суда жилое помещение Алькина почему-то именовало спорным, хотя спорить тут не о чем, ибо нет предмета спора, приняла во внимание, что для приватизации нужно согласие дочери Алькина и ее мужа, потому что за ними сохраняется равное с нанимателем право владения и пользования этим жилым помещением, и решила, что доводы истца о том, что он имеет право на безвозмездную приватизацию занимаемого жилого помещения, никем не оспариваются. Так верните человеку **ЕГО** собственность, а заодно и деньги, взятые у него незаконно за жилье.

Далее судебная коллегия заявляет: кроме того, во исполнение Указа №563 президента Республики Беларусь спорное жилое помещение с 1 июля 2016 года включено в состав жилых помещений коммерческого использования. Интересно было бы узнать, Алькину в том числе, в каком это месте Указа президента так прямо и записано, что жилое помещение, занимаемое именно гражданином А.И.Алькиным, включено в состав жилых помещений коммерческого использования.

Далее судебная коллегия указала, что доводы Алькина о том, что законодательством не определен порядок приватизации жилых помещений, полученных в счет компенсации за снесенный жилой дом, несостоятельны, поскольку этот порядок определен статьей 136 Жилищного кодекса и Указом президента Республики Беларусь №563. В чем же несостоятельность доводов Алькина? В том, что он не просит разрешить ему приватизацию жилого помещения государственного жилого фонда, а требует вернуть ему его собственность?!

В соответствии со статьей 13 Конституции Республики Беларусь в стране имеются только две формы собственности – государственная и частная. Жилищный кодекс, на который так упорно ссылаются чиновники и суды, регулирует вопросы использования государственного жилого фонда, а Указ президента Республики Беларусь, на который также ссылаются те же юридические и физические лица, регулирует вопросы частного жилья. И смешивать эти две формы собственности и пытаться вводить Алькина в заблуждение не к лицу и чести чиновников и судов. Поскольку Указом порядок безвозмездного предоставления жилого помещения из государственного жилого фонда гражданам в связи со сносом их домов не определен, то действует Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 30.06.1992 №398 (ред. от 30.07.1993) «Об утверждении Положения о приватизации жилых помещений в домах государственного и общественного жилищного фонда, их обслуживании и ремонте». В пункте 29 Постановления записано: «*Жилые помещения, полученные гражданами в домах государственного и общественного жилищного фонда в результате сноса жилых домов, принадлежавших им на праве собственности, в связи с изъятием земельных участков для государственных или общественных нужд, если им не была предусмотрена денежная компенсация за эти дома, независимо от времени предоставления квартиры, передаются этим гражданам или их наследникам безвозмездно*». То есть правительство четко установило, что жилое помещение просто передается гражданину – собственнику снесенного дома. Значит, указанное помещение не приватизируется на условиях статьи 136 Жилищного кодекса. Это во-первых, а во-вторых, передача производится безвозмездно. Эти условия в отношении Алькина не соблюдены. Отказ Алькину в безвозмездной передаче жилого помещения на том основании, что нет согласия его дочери и зятя на приватизацию, есть грубое нарушение его законных прав и интересов. Так в чьих же руках закон? И кто восстановит Алькина в его правах и вернет ему собственность?

**Николай ШАЛИМО, юрист, магистр Международной Академии информационных технологий.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Злыдню выбіла скулу – заслужыла пахвалу

У Светлагорску маладзён пры дапамозе сацыяльных сетак пазнаёміўся з 15-гадовай навучэнкай каледжа. Даведаўшыся пра яго сапраўдны ўзрост, дзяўчына адмовілася працягваць адносіны. А калі "кавалер" стаў дакучаць, адным ударам зламала яму сківіцу. Пацярпелы звярнуўся ў міліцыю, узбуджана крымінальная справа.

Юрлівы вельмі маладзён
Лічыў, напэўна, гэтак:
Як будзе заляцацца ён
Да юных малалетак,
Дык вынік мецьме неблагі,
Жаданні могуць збыцца,
Бо ім лягчэй дурыць мазгі,
Чым дзеўкам-маладзіцам.
А дапаможа інтэрнэт,
Бо там шукае шчасце
Нямала дзевак і кабет.
Кіпяць такія страсці!
У ім гуляюць у "любоў"
І юныя німфеткі.
Адну з іх маладзён знайшоў
У сховах-нетрах Сеткі.
І завязалася тады
Між імі перапіска.
Юрлівец многа ліў вады,
А праўды – і не блізка.
Ён падбіраўся, як ліса,
У сэрцы кратаў струны…
Ну а галоўнае – пісаў,
Што ён таксама юны.
Не сумняваўся: на кручок
Ён падсадзіў умела…
Рашыў нарэшце, што дзяўчо
Для большага саспела.
Дык годзе пудрыць ёй глузды –
Час захлынацца ў блудзе.
А малалетка сапраўды
Паверыла аблудзе,
І рамантычныя яна,
Прынамсі, мела планы:
Што будзе вершы да цямна
Чытаць яе каханы.
Але прыйшоў такі бугай!
Дый, мусіць, выпіў піва.
Яму пад трыццаць год, бадай,
Яшчэ й глядзіць юрліва –
Благі выказвае намер…
Ды не прынёс і кветкі…
Не трэба гэткі кавалер
Для юнае німфеткі!
Яна дала яму адлуп,
Каб не было дакукі.
Юрлівец не стаяў, як слуп,
Стаў распускаць ён рукі.
Дзяўчынка злыдню
ў морду – трэсь!
Кулак – нібыта камень.
Перакасіўся твар увесь.
А так і трэба! А не лезь
Юрлівымі рукамі!
Паганцу выбіла скулу
Майстэрскім аперкотам,
Чым заслужыла пахвалу.
Што ж адбылося потым?
Ён на німфетку не папёр
І не ўвязаўся ў бойку:
Падумаў, што яна баксёр –
Дадасць яшчэ і "двойку".
Ён у міліцыю пабег –
Маўляў, дзяўчо пабіла.
Там капітан падняў на смех,
Глядзеў як на дэбіла…
Пабітаму сказаў бы я:
Пап'еш-паколеш лекі –
Зрасцецца сківіца твая,
А зганьбіўся – навекі.

* * *

Хлапцы! Каб нейкае дзяўчо
Вам сківі не ламала,
Не кідала цераз плячо,
Наведвайце спартзалы!

ХАЧУ СКАЗАЦЬ...

## Альбо вы рэальна змагаецеся за тое, каб прыйсці да ўлады, альбо не называйце сябе апазіцыяй…

Прачытаў на сайтах пра нядаўнюю сустрэчу, здаецца, у Гомелі групы апазіцыйных лідараў. Некалькі вядомых асоб прыехалі з Мінска. Гаворка вялася пра чарговыя выбары ў мясцовыя Саветы. Як заўсёды, дасталося існуючым уладам, маўляў, вынікі галасавання будуць сфальсіфікаваны, дэпутацкія мандаты атрымаюць тыя, хто лаяльны да вертыкалі, хто падзяляе пазіцыю "Чырвонага дома".

Я не выключаю верагоднасці розных махлярстваў падчас выбарчай кампаніі. Але мяне вельмі і вельмі засмуціла спакойна-абыякавае выказванне аднаго са сталічных важакоў наконт таго, што, маўляў, улады ўсё ж прапусцяць у мясцовыя Саветы 20–30 апазіцыянераў. Сказана было так, як быццам гэтая лічба ўсіх задавальняе.

Такое стаўленне да сітуацыі, якая складваецца з чарговай палітычнай кампаніяй, лічу абсалютна няправільным. Апускаць рукі ўжо на сённяшнім этапе – значыць, распісацца ў поўнай бездапаможнасці. Калі вас, бясслаўныя апазіцыянеры, задавальняе тое, што ўлады прапусцяць у мясцовыя органы кіравання 20–30 вашых сябраў, то ці не лепш вам наогул адмовіцца ад змагання за ўзыходжанне на палітычны алімп?

Возьмем тыя ж сельскія Саветы. Дэпутацкая групоўка ў кожным з іх налічвае прыкладна 15–20 чалавек. Каб атрымаць мандат, трэба заручыцца падтрымкай некалькіх дзясяткаў выбаршчыкаў. Не мільёнаў, як падчас прэзідэнцкіх выбараў, і не дзясяткаў тысяч, як, магчыма, пры парламенцкіх, а ўсяго, паўтараю, некалькіх дзясяткаў чалавек. Ідзіце ў кожную хату, у кожную сям'ю, гаварыце, тлумачце сваю пазіцыю, пераконвайце ў тым, што менавіта вы самыя дастойныя кандыдаты ў дэпутаты мясцовага Савета – глядзіш, і вам аддадуць людзі свае галасы.

Скажаце: нічога з гэтага не атрымаецца, усё роўна сфальсіфікуюць вынікі галасавання. Але ж падчас правядзення выбараў у мясцовыя Саветы гэта зрабіць не так проста. У рэшце рэшт вы можаце дамовіцца з тымі, хто з усіх прэтэндэнтаў аддае перавагу вам, што яны публічна зробяць заяву непасрэдна на выбарчым участку, што прагаласавалі менавіта за вас.

Вы можаце папрасіць сваіх прыхільнікаў, каб яны на бюлетэнях зрабілі нейкія ўмоўныя адзнакі, і тады пералік іх прадставіць рэальную карціну галасавання. А калі будзе выяўлена махлярства, то гэта дасць вам права прыцягнуць вінаватых да юрыдычнай адказнасці і патрабаваць правядзення паўторных выбараў.

Ды што тут казаць! Калі ў вас, спадары апазіцыянеры, ёсць жаданне ўзяць уладу ў свае рукі, то з усіх сіл змагайцеся за гэта, а не займайцеся толькі балбатнёй. Шкада, што мой сталы ўзрост не дазваляе мне рвацца ў вялікую палітыку, але вам, маладым, трэба зразумець, што пад ляжачы камень вада не цячэ.

**Ігнат ГУРЫНОВІЧ, пенсіянер.**

РЭЗАНАНС

# Нашы навукоўцы не горшыя за замежных…

*Калі іх праца будзе варта аплачвацца, то яны парадуюць інтэлектуальнымі дасягненнямі*

Хочаш мець месячны заробак у памеры 700 рублёў – будзь прафесарам. Заробак дацэнта – прыкладна 500 рублёў. Меншы, чым у кіроўцы аўтамабіля, аўтаслесара, цырульніка і г.д. А пенсіі ў былых нашых навукоўцаў – на ўзроўні 300 рублёў.



І гэта ў той час, калі галоўная прадукцыя навукі – новыя тэхналогіі, інавацыі, камп'ютарныя праграмы – з'яўляецца асновай прагрэсу, дабрабыту і багацця краіны. Што ні кажыце, а прырода не абдзяліла нашых суайчыннікаў інтэлектам і талентамі. Доказам гэтаму могуць быць высокія месцы, якія займаюць нашы школьнікі і студэнты на міжнародных конкурсах і алімпіядах. Высока ацэньваюцца нашы праграмісты. Ускосным пацвярджэннем сказанага можа быць выказванне амбасадара Ізраіля аб тым, што вельмі многія кіраўнікі ўрада, генералы, навукоўцы яго краіны з'яўляюцца выхадцамі з Беларусі.

Такім чынам, у нашай краіне на сённяшні дзень ёсць самы важны складнік для росквіту – адукаваныя, таленавітыя людзі. Вось у іх і трэба ўкладваць грошы. Фінансаваць навуковыя даследаванні, плаціць прыстойную зарплату навукоўцам, забяспечыць годную старасць адпаведнай пенсіяй. На жаль, гэтага няма. І вось якія наступствы гэткай палітыкі мы маем. Лепшыя, найбольш таленавітыя спецыялісты з'язджаюць у другія краіны або працуюць на прадстаўніцтвы зарубежных фірм у Беларусі. На адным сельскагаспадарчым семінары менеджар нямецкай фірмы БАСФ, выпускнік адной з нашых ВНУ, з вялікім імпэтам вучыў у полі, як правільна і эфектыўна прымяняць сродкі аховы раслін, якія вырабляе гэтая фірма. Вядомы наш фермер падышоў да яго і задаў такое пытанне: "Вы, мабыць, навуковец – так файна, прафесійна распавядаеце?" – "Так, я кандыдат сельскагаспадарчых навук". – "Дык чаму ж вы, як навуковец, не распрацавалі свой, беларускі, прэпарат і не прадставілі яго тут, а рэкламуеце нам нямецкі?" Адказу не было.

Атрымліваючы мізэрную зарплату, навукоўцы, кандыдаты і дактары навук, каб пракарміць сем'і, вымушаны выконваць не зусім навуковую працу. Напрыклад, заключаць кантракты і праводзіць даследаванні чужых прэпаратаў, часцей замежных, з мэтай іх рэгістрацыі. Гэта яшчэ больш-менш блізка да навукі. Другім такой работы не стае, і яны зарабляюць па-рознаму ў розных відах дзейнасці, далёкіх ад навукі. Аднак, каб атрымаць значныя навуковыя дасягненні, трэба паглыбіцца ў тэму поўнасцю, у вольны час вывучаць адпаведную літаратуру, а не таксаваць ці рамантаваць бытавую тэхніку.

Думаю, цяжка са мной не пагадзіцца: лепш было б тыя вялікія валютныя сродкі або хаця б іх часцінку, якія мы трацім на закуп імпартных прэпаратаў і ўсяго іншага, аддаць нашым навучальным і навуковым установам. Гэта было б на карысць краіны. Паўтаруся: нашы людзі, нашы навукоўцы ніколькі не дурнейшыя за замежных. Сотні мільёнаў долараў застануцца ў краіне, будуць высокаінтэлектульныя рабочыя месцы і г.д. А потым будзе і экспарт таго, што створым сваім розумам.

Цяпер мы хвалімся экспартам IT-паслуг. Гэта, на мой погляд, не зусім добра, таму што нашы праграмісты працуюць на чужога "дзядзьку", дапамагаюць яму, а не нашым прадпрыемствам, стаць больш багатым. Я не агітую за савецкую ўладу, але ў тыя часы навукоўцаў больш-менш паважалі. У 1980-я гады, калі я пачынаў працаваць у ВНУ, аклад дацэнта быў 320 рублёў, у маёра міліцыі – прыкладна 250, сярэдні заробак па краіне – 150 рублёў. Цяпер аклад дацэнта менш за 200 рублёў, а з усімі дабаўкамі і прэміямі – каля 500. Сярэдняя зарплата па краіне, як адзначалася ў газеце "Народная Воля", больш за 800 рублёў. А ў маёра міліцыі больш за тысячу. Вось такая арыфметыка. І таленавітыя маладыя людзі пры выбары напрамку будучай дзейнасці, вядома ж, ведаюць гэтыя лічбы і не ідуць у навуку. Краіна, якая губляе свой патэнцыял, не будзе мець шчаслівай будучыні. У перадавых краінах свету навукоўцы і распрацаваныя імі тэхналогіі робяць значны ўнёсак у бюджэт. Вынікі такой палітыкі мы бачым, купляючы іх тэхніку, нават не самую новую.У нас гэтага вельмі мала і будзе яшчэ менш. Можа, нават здарыцца так, што не стане грошай плаціць вялікую зарплату сілавікам. Трэба ўкладваць грошы не ў зброю, а ў тэхналогіі.

***P.S.*** *Гэты ліст быў ужо гатовы, калі прачытаў у "Народнай Волі" за 19 верасня інтэрв'ю з вядомым навукоўцам, палітыкам, патрыётам і цікавым чалавекам Аляксандрам Вайтовічам. Поўнасцю згодны з яго пазіцыяй. Замоўчванне факта развалу навукі можа мець цяжкія наступствы для нашых дзяцей і ўнукаў. Ёсць невялікая надзея, што на сваім другім з'ездзе навукоўцы Беларусі згуртуюцца і спыняць глумленне з навукі і навукоўцаў. Больш нават не дзеля сябе, а дзеля будучага росквіту нашай Радзімы.*

**Васіль МІХАЛЬЧЫК, дацэнт.**

*Гродна.*

SOS!

## Проведение тендеров на закупку лекарств нужно отдать независимым международным организациям

Двадцать лет назад мне была назначена 3-я группа инвалидности по сахарному диабету и сердечно-сосудистым заболеваниям. Теперь моей пенсии не всегда хватает на лекарства. Живем на часть пенсии мужа, который тоже болеет. И другую группу не дают, и лекарства дорогие. На все вопросы чиновники отвечают: «А это ваши проблемы».

Получается, что человек, ушедший на пенсию, не может купить лекарства и простую еду. А я ведь отработала 45 лет в БНТУ, автор 70 печатных работ (из них соавтор четырех книг).

В госбюджете нет денег для поддержки таких, как я. Но финансовые средства можно сэкономить, изменив во многих случаях политику. Украина для обуздания коррупции доверила проведение тендеров на закупку лекарств независимым международным организациям, и цены там на ряд препаратов стали несопоставимо ниже наших. А почему бы и у нас не отобрать у чиновников право проводить госзакупки, передать его независимым структурам и лучше даже не белорусским.

Я из крестьянской семьи. Оба дедушки умерли, не дождавшись даже минимальной 12-рублевой пенсии. Бабушки и родители работали за палочки; молоко, масло шло на налоги. Власть была озабочена тем, чтобы ребенок колхозников не съел яблока, введя налог на сады. Ни у кого в нашем классе не было покупной верхней одежды, ходили в телогрейках, а в мае шлепали босиком к доске. После пятого, шестого, седьмого классов летом пололи делянки с кукурузой, свеклой. И мы теперь что-то должны государству? И вообще, что это за государство, когда таким, как я, приходится доживать свой век, не зная как свести концы с концами?

**Тамара Александровна СУХАЯ.**

*Минск.*

